Москва, ул. Фрунзе 11 б-ке
ком. Академии при ССР
Янв. дек. / Бюл. СНК. I /

...ы ўсіх краін, злучайцеся!



# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады
(г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 21 (95) | 15 кастрычніка 1930 г. | № 21 (95)

## ЗЬМЕСТ



## Пастанова Аб'яднанага Пасяджэньня Прэзыдыуму ЦКК і Калегіі НК РСІ БССР.

### Паст. 165. Пра становішча і чарговыя задачы работы па самарацыяналізацыі дзяржаўнага апарату БССР.

1. Адзначыць, што матарыялы і даныя праведзенага масавага грамадзкага агляду становішча рацыяналізацыі ў дзяржапараце БССР сьведчаць аб наяўнасьці некаторых дасягненьняў і агульнага палепшаньня пастаноўкі справы рацыяналізацыі ў шэрагу савецкіх установ,

у першую чаргу ў тых, дзе як адміністрацыяй, так і грамадзкімі арганізацыямі зьвяртаецца дастатковая ўвага на арганізацыю гэтай справы.

2. Адначасова гэтыя-ж матарыялы масавага абгляду сьведчаць аб тым, што ў большасьці савецкіх установаў БССР дырэктыва партыі аб арганізацыі сыстэматычнай рацыяналізатарскай работы застаецца нявыкананай. Рацыяналізацыя свайго апарату далёка яшчэ не зрабілася абавязковай і штодзённай функцыяй кожнай установы, як гэтага патрабуюць рашэньні 16-й партканфэрэнцыі. Тэхніка работы савецкага апарату яшчэ ў значнай ступені адстае і не адпавядае агульным тэмпам сацыялістычнага будаўніцтва БССР.

3. Галоўныя прычыны такога становішча самарацыяналізацыі ў дзяржаўным апараце караняцца ў наступным:

а) недаацэнка і неўразуменьне значэньня і ролі рацыяналізатарскай работы з боку шэрагу партыйных і прафсаюзных арганізацый і кіраўнікоў установаў і, нават, недапусьцімае ігнарыраваньне гэтай функцыі з боку некаторых з іх;

б) амаль поўная адсутнасьць падрыхтаваных кадраў рацыяналізатараў, недастатковы тэмп падрыхтоўкі такіх кадраў, нездавальняючы якасны склад маючыхся рацыяналізатараў (амаль поўная адсутнасьць рабочых, партыйцаў);

в) недастатковае кіраўніцтва рацыяналізатарскай работай як з боку цэнтральных установаў і наркаматаў у адносіне сваёй пэрыфэрыі, так і з боку органаў РСІ; адсутнасьць абмену рацыяналізатарскім вопытам; недастатковасьць рацыяналізатарскай літаратуры; зусім слабае асьвятленьне друкам пытаньняў рацыяналізацыі.

4. Для дасягненьня сапраўднага рашучага пералому ў справе пастаноўкі рац. работы ў савецкіх установах і забясьпечаньня выкананьня пастаноў XIII Зьезду КП(б)Б і XVI Зьезду УсеКП(б) па гэтым пытаньні—Прэзыдыум ЦКК і Калегія НК РСІ БССР пастанаўляюць:

а) Усе рацыяналізатарскія прапановы, унесяныя ў час грамадзкага абгляду, вядучыя да палепшаньня апарату, павінны быць у тэрміновым парадку праведзены ў жыцьцё пад адказнасьць кіраўнікоў данай установы, з выдачай пры гэтым адпаведнай прэміі аўтарам найбольш буйных і эфэктыўных прапаноў.

Групе савецкага апарату не пазьней 1/XI-1930 г. зрабіць выбарную праверку па ўстановах, як выкананы ўнесяныя прапановы.

б) Прапанаваць усім установам і арганізацыям пад асабістую адказнасьць кіраўнікоў прыняць да неадкладнага выкананьня пастанову калегіі НК РСІ СССР за 21/VIII-1930 г. аб узмацненьні рацыяналізатарскай работы.

У паасобку павінна быць выканана пэўна ў тэрмін дырэктыва НК РСІ СССР аб утварэньні ў працягу 2-х мес. пры ўсіх цэнтральных установах і наркаматах спэцыяльных рацыяналізатарскіх бюро для непасрэднага ўвядзеньня ў сваёй установе рацыяналізатарскай работы і кіраўніцтва гэтай функцыяй ў філіалах ведамства і ўваходзячых у яго розных аб'яднаньнях.

Разам з гэтым адзначыць, як зусім недапусьцімае зьявішча, што ў такіх асноўных наркаматах, як НК Гандлю, НКЗ, ВСНГ і Белсампрамсаюзе да гэтага часу няма дастаткова ўкамплектаваных рацыяналізатарскіх бюро.

Групе савецкага апарату мець сталы нагляд за выкананьнем пастановы НК РСІ СССР за 21/VIII-1930 г.

БИБЛИОТЕКА ... АКАДЕМИИ

в) Для арганізацыі рацыяналізатарскай работы ў раёнах прапанаваць усім РайКК—РСІ ўключыць гэтую функцыю, як адну з асноўных, у свае пляны працы на 1930/31 г. У апараце РВК вылучыць адказнага за вядзеньне рац. работы інструктара па сав. будаўніцтву, а там дзе іх няма, ускласьці гэта на сакратароў РВК. Разам з тым лічыць патрэбным у 10 раёнах БССР, у якіх уводзіцца вопытная функцыянальная структура, увесьці штатныя спэцыяльныя адзінкі рацыяналізатараў па тэхніцы кіраўніцтва.

г) Маючыйся ўжо да гэтага часу шэраг важнейшых дырэктыў Ураду і органаў РСІ ў галіне тэхнікі работы апарату (палажэньне аб структуры, справаводзтве, кантролю выкананьня, эканоміі паперы і г. д.) у сваёй суме складаюць такі рац. мінімум, які на сёньняшні дзень можна лічыць мінімальным і абавязковым для кожнай савецкай установы.

Выходзячы з гэтага, прапанаваць усім кіраўнікам устаноў у дэкадны тэрмін праверыць, як выконваецца ў данай установе паказаны рац. мінімум і прыняць захады да яго поўнага ажыцьцяўленьня.

У далейшым гэты мінімум павінен паступова папаўняцца новымі праверанымі на вопыце рацыяналізатарскімі мерапрыемствамі.

д) Праведзеная НК РСІ БССР спэцыяльная рэгістрацыя ўсіх маючыхся ў БССР рацыяналізатараў яскрава выявіла значны разрыў паміж наяўным кадрам рацыяналізатараў і патрабаваньнямі ў іх.

З прычыны таго, што прынятыя ўжо ў гэтай адносіне меры (адчыненьне спэц. рац. цыклю на факультэце сав. будаўніцтва, арганізацыя курсаў пры вопытнай станцыі ІТУ і г. д.) усе-ж не забясьпечваюць маючыяся запатрабаваньні, лічыць патрэбным дадаткова правесьці наступнае:

Пры рац. цыклў вячэрняга факультэту сав. будаўніцтва БДУ—арганізаваць дабравольную групу з рацыяналізатараў-практыкаў, даўшы ім магчымасьць праслухаць курс факультэту і гэтым падняць іх кваліфікацыю.

Улічваючы ўзрастаючую патрэбнасьць у кадрах рацыяналізатараў, увайсьці з хадайніцтвам перад СНК БССР аб арганізацыі пры факультэце сав. будаўніцтва БДУ самастойнага рацыяналізатарскага аддзяленьня, для чаго павінен быць скарыстаны чарговы зімовы прыём студэнтаў.

На ўсіх курсах, што арганізуюцца пры ведамствах, абавязкова ўключыць спэцыяльны курс—тэхніку кіраўніцтва і рацыяналізацыі па данай галіне.

Культ. групе НК РСІ у 3-х дзённы тэрмін праверыць, як выканана НК Асьветы на 1930/31 г. ранейшая дырэктыва ЦКК—НК РСІ аб уключэньні рацыяналізатарскіх дысцыплін у курс вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў.

Групе сав. апарату прасачыць за тым, каб БССР былі цалкам скарыстаны месцы, што даюцца ёй на вышэйшых рацыяналізатарскіх курсах у Маскве.

Наогул, кадры рацыяналізатараў у далейшым павінны камплектавацца ў асноўным з ліку найбольш здольных рабочых, партыйцаў, камсамольцаў (магчыма з шэфствуючых прадпрыемстваў) і вопытных аперацыйных працаўнікоў устаноў і прафактыву, паказаўшых сябе на грамадзкай працы, у эканомкамісіі, мясцкоме і г. д., пры чым адміністрацыя ўстаноў павінна даваць гэтым новым кадрам магчымасьць падвышаць сваю кваліфікацыю ўжо будучы на працы шляхам пасылкі іх на курсы, аплаты іх завочнай учобы, пакупкі для іх літаратуры і г. д.

е) Адзначаючы, што паводле даных, атрыманых пры абглядзе, відаць што ў шэрагу сав. установ да гэтага часу ня ўтвораны яшчэ фонды прэм'яваньня, а ў шмат якіх установах тыя фонды, што ёсьць, не скарыстоўваюцца і не папулярызуюцца, папярэдзіць яшчэ раз усіх кіраўнікоў установ аб іх пэрсанальнай адказнасьці за неадкладнае ўтварэньне і поўнае скарыстаньне фондаў, паводле пастановы СНК СССР. Разам з тым лічыць патрэбным, каб па ўсіх раёнах БССР былі прадугледжаны такія фонды па мясцовых бюджэтах раёнаў.

ж) Адзначаючы, што ў БССР дагэтуль зусім у малай колькасьці распаўсюджваецца пэрыядычная рацыяналізатарская літаратура (часопісы „Тэхніка Кіраўніцтва", „За рацыяналізацыяю")—раіць усім цэнтральным установам і арганізацыям, а таксама ўсім РВК выпісаць гэтыя часопісы на 1930/31 г. Белдзяржвыдавецтву прыняць захады да забясьпечаньня мясцовай масавай літаратурай па рацыяналізацыі паводле сьпісу тэм, распрацаванаму НК РСІ.

з) Для канцэнтрацыі абмену вопытам па рацыяналізацыі апарату і выпрацоўкі далейшых прынцыпаў гэтай работы лічыць патрэбным склікаць не пазьней сьнежня 1930 г. пры НК РСІ БССР Усебеларускую нараду на рацыяналізацыі савецкага апарату.

Групе савецкага апарату ў дэкадны тэрмін распрацаваць праграму нарады і падаць на зацьверджаньне Калегіі.

Разам з тым для палепшаньня сыстэматычнага абмену вопытам, лічыць патрэбным арганізаваць пры Менскай вопытнай станцыі І. Т. У. практыку сталых штодэкадных нарад рацыяналіз. актыву г. Менску, дзе ставіць на абгаварэньне найбольш важныя грунтоўныя пытаньні як агульна прынцыповага зьместу, так і з практыкі паасобных установ, а таксама арганізаваць сталы куток рацыяналізатара, бібліятэку і кансультацыю па рацыяналіз. пытаньнях. Таксама прапанаваць усім кіраўнікам установ арганізаваць у сябе сталы падлік выкананьня рацыяналіз. плянаў і падлік эфэктыўнасьці (матарыяльнай ці арганізаванай) кожнага праведзенага мерапрыемства.

і) Канстатуючы, што матарыялы праведзенага масавага абгляду сьведчаць аб яшчэ зусім слабай пастаноўцы эканамічнай работы прафсаюзных органаў, асабліва па саюзу саўгандальслужачых, давесьці аб гэтым да ведама ЦСПСБ для прыняцьця адпаведных захадаў да палепшаньня гэтай работы.

к) У зьвязку з маючыміся фактамі невыкананьня ранейшай дырэктывы ЦКК-НК РСІ аб структуры рацыяналіз. бюро ва ўстановах—яшчэ раз пацьвердзіць, што арганізуемыя рацыяналіз. органы павінны быць падпарадкаваны непасрэдна кіраўніку ўстановы, які нясе пэрсанальную адказнасьць за становішча рацыяналізацыі ў сваім апараце.

л) Арганізаваць праз органы РСІ праз прыцягненьне рабочых шэфствуючых прадпрыемстваў масавы рабочы кантроль над выкананьнем усіх дырэктыў па рацыяналізацыі, у паасобку, і гэтай пастановы, а таксама за ажыцьцяўленьнем рацыяналіз. мінімуму.

З гэтай жа мэтай значна большую ўвагу павінна сыстэматычна зьвяртаць на пытаньні рацыяналізацыі пэрыядычная прэса.

м) Дырэктывы XVI Зьезду УсеКП(б) „аб рашучай ліквідацыі установ і форм кіраўніцтва, некрытычна пазычаных з капіталізму", што дало-б магчымасьць „значнага скарачэньня ліку і патаненьня ўсіх апаратаў"—гэтая дырэктыва зможа быць выканана толькі пры ўмове, калі мы даб'емся рашучага пералому ў адносіне да справы рацыяна-

лізацыі з боку ўсіх устаноў і арганізацый і калі да гэтай справы будуць прыцягнуты шырокія колы працоўных і ўся рабочая грамадзкасьць.

о) Гэту пастанову абвясьціць у друку.

Старшыня ЦКК і Народны Камісар НК РСІ БССР **А. Калнін.**

27 верасьня 1930 г.
№ 102.

Узгоднена з Упаўнаважаным НКЗС СССР пры Урадзе БССР.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

### Паст. 166. Пра аказаньне садзейнічаньня прадстаўнікам Акцыйнага Таварыства па чужаземнаму праву пры выкананьні імі абавязкаў.

У Маскве арганізуецца Акцыйнае Таварыства па чужаземнаму праву, задачай якога зьяўляецца правядзеньне за-граніцай судовых і іншых па маемасных прэтэнзіях спраў грамадзян Саюзу ССР.

Прымаючы пад увагу важнае значэньне дзейнасьці гэтага Таварыства па ахове інтарэсаў грамадзян Саюзу ССР, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе ўсім судовым і натарыяльным органам, а таксама органам пракуратуры:

а) аказваць дапамогу закона упаўнаважаным прадстаўнікам Акцыйнага Таварыства па чужаземнаму праву, калі яны зварочваюцца па справах грамадзян Саюзу ССР, разглядаемых у замежных судох ці іншых замежных установах, і ў паасобку;

б) выдаваць паводле правілаў працэсуальных кодэксаў і натарыяльнага палажэньня даведкі, копіі дакумэнтаў і г. д., а таксама, у выпадку патрэбы, выдаваць пасьведчаньні на атрыманьне ад органаў ЗАГС, з архіваў і г. д. даведак і копій дакумэнтаў, якія маюць дачыненьне да данай справы і якія ня носяць сакрэтнага характару.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Н. Міхайлаў.**

27 верасьня 1930 г.
№ 40.

Узгоднена з НК Фінансаў БССР.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР.

### Паст. 167. Пра спагнаньне адзінай дзяржаўнай пошліны.

***Усім народным судам, пракурорам, натарыяльным органам (натарыяльным канторам, сельскім, местачковым і гарадзкім саветам) і органам міліцыі.***

Пастановай ЦВК і СНК Саюзу ССР за 2/IX-1930 г. „Аб падатковай рэформе“ (газэта „Известия ЦИК СССР“ за 4 верасьня 1930 г. № 244) з 1-га кастрычніка 1930 г. касуюцца наступныя дзяржаўныя і мясцовыя падаткі, зборы і плацяжы ў спэцыяльныя сродкі: гэрбавы і натарыяльны зборы, судовыя пошліны, зборы за дзеяньні па выкананьні судовых пастаноў, прычым усе пералічаныя зборы і пошліны замяняюцца адзінай дзяржаўнай пошлінай.

Прымаючы пад увагу, што адзіная дзяржаўная пошліна павінна спаганяцца з 1-га кастрычніка г. г. і што да гэтага тэрміну нельга будзе правесьці ў заканадаўчым парадку адпаведных зьмен у кодэксах і спэцыяльных законах аб спагнаньні тых збораў, якія замяняюцца

адзінай дзяржаўнай пошлінай, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануюць усім народным судам, пракурорам, натарыяльным органам і органам міліцыі, часова, пакуль ня будуць зьменены адпаведныя законы, пры спагнаньні збораў і пошлін, зьвязаных з вядзеньнем судовых спраў, выкананьнем судовых пастаноў і з натарыяльнымі дзеяньнямі кіравацца, наступнымі паказаньнямі:

1) пачынаючы з 1 кастрычніка гэтага году замест гэрбавага і натарыяльнага збору, судовай пошліны і збораў за дзеяньні, якія робяцца службовымі асобамі па выкананьні судовых пастаноў, павінна спаганяцца адзіная дзяржаўная пошліна;

2) адзіная дзяржаўная пошліна спаганяецца паводле правіл і па стаўках, устаноўленых зацьверджаным ЦВК і СНК СССР за 2 верасьня 1930 г. „Палажэньнем пра адзіную дзяржаўную пошліну“ (газэта „Известия ЦИК ССР“ за 1930 г. № 247).

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **П. Валасевіч.**

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

27 верасьня 1930 г.
№ 41.

**Паст. 168. Пра пытаньні, зьвязаныя з ужываньнем законаў аб высяленьні грамадзян з займаемых імі памяшканьняў і аб прымусовым пацясьненьні ў дамох.**

***Усім народным судам, пракурорам і органам камунальнай гаспадаркі.***

Як відаць з судовых спраў і практыкі органаў камунальнай гаспадаркі, да гэтага часу наглядаюцца выпадкі няправільнага ўжываньня законоў аб прымусовым высяленьні з кватэр і пацясьненьні ў дамох, а таксама выпадкі прымусовага перасяленьня жыльцоў.

Каб папярэдзіць на будучы час няправільнае ўжываньне існуючага заканадаўства пра высяленьне грамадзян з займаемых імі памяшканьняў і пра пацясьненьне, Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Унутраных Спраў БССР лічаць патрэбным даць наступныя паказаньні па ўжываньні законаў аб высяленьні і пацясьненьні.

I. Прымусовае высяленьне грамадзян з займаемых імі памяшканьняў, а таксама прымусовае пацясьненьне ў домох дазваляецца альбо на падставе правіл Грамадзянскага Кодэксу, калі касуецца, альбо спыняецца дагавор найма, альбо ў выпадках, прадугледжаных наступнымі спэцыяльнымі законамі:

а) пастановай ЦВК і СНК БССР за 19 лютага 1927 г. „Аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў ў гарадох і мястэчках“ (З. З. БССР 1927 г. № 12, арт. 42; 1928 г. № 15, арт. 124 і 1930 г. № 6, паст. 38);

б) пастановай ЦВК і СНК БССР за 15 верасьня 1927 г. „Аб прымусовым пацясьненьні ў дамох“ (З. З. БССР 1927 г. № 36, арт. 190);

в) пастановай СНК БССР за 28 мая 1928 г. „Пра мерапрыемствы па жылішчнай гаспадарцы“ (З. З. БССР 1928 г. № 19, арт. 192; 1930 г. № 7, паст. 46 і № 15, паст. 107).

Што-ж датычыць да пастановы СНК БССР за 5 чэрвеня 1929 г. „Пра пацясьненьне і перасяленьне ў муніцыпалізаваных і прыватных дамох“ (З. З. БССР 1929 г. № 19, паст. 115 і № 32, паст. 190), то

прымаючы пад увагу, што гранічны тэрмін дзеяньня гэтай пастановы скончыўся 1 кастрычніка 1929 г. (З. З. БССР 1929 г. № 32, паст. 190), трэба лічыць гэты закон страціўшым сілу.

II. З прычыны паказанага вышэй трэба лічыць зусім забароненым прымусовае перасяленьне і праз суд і ў адміністрацыйным парадку, а таксама прымусовае засяленьне лішкавай плошчы, калі няма ўмоў для пацясьненьня, прадугледжаных законам пра пацясьненьне за 15/IX-1927 г.

III. Таму і на падставе арт. 7 пастановы СНК БССР за 23 мая 1928 г. „Пра мерапрыемствы па жылішчнай гаспадарцы“ (З. З. БССР 1928 г. № 19, арт. 192) перасяленьне жыльца з аднэй кватэры ў другую альбо з аднаго пакою ў другі дазваляецца толькі са згоды асоб, якія падлягаюць перасяленьню. Таксама, толькі пры ўмове згоды жыльца можна ўсяляць у займаемы ім пакой другога жыльца, г. зн. у парадку самапацясьненьня.

IV. У дамох, на якія заключаны дагаворы аб праве забудоўкі альбо дабудоўкі ці пабудовы, у дамох, якія належаць на праве ўласнасьці рабочым ці агульна-грамадзкім жылішчна-каперацыйным таварыствам (З. З. БССР 1930 г. № 7, паст. 45), а таксама ў дабудаваных, перабудаваных і новых будынках, пабудаваных на падставе закону пра заахвочваньне да жылішчнага будаўніцтва (З. З. БССР 1930 г. № 7, паст. 44), ніякае прымусовае пацясьненьне не дазваляецца.

V. У дамох іншых катэгорый прымусовае пацясьненьне можа рабіцца толькі ў тым выпадку, калі ў наймальніка маецца лішкавая плошча і калі гэтую плошчу можна адабраць у відзе паасобнага пакою, маючага асобны выхад на вуліцу беспасрэдна альбо праз памяшканьне агульнага карыстаньня; пры гэтым наймальніку, якога трэба пацясьніць, павінна быць пакінута плошча, ня менш устаноўленай законам санітарнай нормы. Лішак плошчы можна адабраць таксама праз перабудову дома альбо кватэры такім чынам, каб прахадныя пакоі зрабіць непрахаднымі альбо паменшыць разьмер самых пакояў і каб гэтым спосабам вылучыць лішкавую плошчу ў відзе асобнага пакою або пакояў.

VI. Значыцца, калі маюцца паказаныя ў пункце V умовы, і калі наймальнік добравольна ня хоча пацясьніцца, дамаўласьнік альбо орган, у распараджэньні якога даны дом знаходзіцца, павінен падаць ў суд іск альбо аб адабраньні ад наймальніка лішкавага пакою альбо аб дапушчэньні да перабудовы памяшканьня.

Калі самы дом замацаваны ва ўстаноўленым парадку за якой-небудзь установай, прадпрыемствам альбо арганізацыяй, то пацясьненьне робіцца ў адміністрацыйным парадку, прадугледжаным арт. арт. 3—6 пастановы ЦВК і СНК БССР за 19 лютага 1927 г. аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў ў гарадох і мястэчках (З. З. БССР 1927 г. № 12, арт. 42 і 1930 г. № 6 паст. 38).

VII. Як ужо паказана вышэй, высяленьне ў адміністрацыйным парадку грамадзяніна з займаемага ім памяшканьня можа рабіцца толькі ў выпадках, пералічаных ў арт. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР за 19 лютага 1927 г. аб высяленьні, і апроч. таго ў выпадках, паказаных ў арт. 7, 8 і 8-а пастановы СНК БССР „Пра мерапрыемствы па жылішчнай гаспадарцы“ (З. З. БССР 1928 г. № 19, арт. 192 і 1930 г. № 15, паст. 107). У астатніх выпадках, калі маюцца законныя падставы для высяленьня жыльца, напрыклад, калі дагавор найму ка-

суецца па Грамадзянскаму Кодэксу альбо калі жылец ня мае права на займаемую ім кватэру (заняў памяшканьне без дазволу дамаўласьніка і г. д.), высяленьне робіцца праз суд, які разглядае іск аб высяленьні ў агульным парадку. Апроч таго, праз суд-жа высяленьне робіцца і з замацаваных дамоў, калі з наймальнікам быў зроблен дагавор і калі тэрмін гэтага дагавору ня зышоў, а таксама, калі наймальнік зрабіў капітальны рамонт займаемага ім памяшканьня.

VIII. Высяленьне ў адміністрацыйным парадку з замацаваных дамоў асоб, пералічаных ў арт. 7 пастановы за 19 лютага 1927 г., можа рабіцца толькі ў пэрыяд з 1 красавіка да 1 лістапада.

Пры абмеркаваньні заяў аб высяленьні ў адміністрацыйным парадку органы камунальнай гаспадаркі павінны кожны раз устанавіць, на якой падставе грамадзянін высяляецца , ці было зроблена папярэджаньне ва ўстаноўленыя тэрміны, ці трэба высяляемаму даць кватэру і транспартныя сродкі, які тэрмін трэба даць высяляемаму для дабравольнага высяленьня.

Што датычыць да пытаньня аб тым, ці дапускаецца ў зімовы час (з 1 лістапада да 1 красавіка) высяленьне праз суд, то яно вырашаецца абежнікам НКЮ за 12 студзеня 1928 г. № 16 ( Бюл. СНК БССР 1928 г. № 2, п. 16) у тым сэнсе, што прыпыненьне высяленьня ў зімовы час для суда не абавязкова, але, калі адказчыкам па справе зьяўляецца працоўны і калі ён падлягае высяленьню не на падставе пунктаў „б", "в" і „е" арт. 1 пастановы ЦВК і СНК БССР за 19 лютага 1927 г. аб умовах і парадку высяленьня, то суд ў парадку арт. 189-а Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу (адпавядае арт. 182 ГПК выданьня 1927 г.) можа адтэрмінаваць выкананьне рашэньня аб высяленьні на зімовы час, г. зн. на пэрыяд з 1 кастрычніка да 1 красавіка.

IX. Пры ўжываньні правіл арт. арт. 8 і 8-а пастановы СНК БССР „Пра мерапрыемствы па жылішчнай гаспадарцы" і зьвязанага з гэтымі артыкуламі тлумачэньня Найвышэйшага Суда за 10 красавіка 1930 г. (пратакол № 80) трэба мець на ўвазе новую рэдакцыю паказаных вышэй артыкулаў (З. З. БССР 1930 г. № 15, паст. 107) і тое, што арт. 8-а цяпер скасаван, чаму паказанае вышэй тлумачэньне Найвышэйшага Суда замяняецца наступнымі паказаньнямі:

а) на падставе арт. 8-а паказанай вышэй пастановы асобы непрацоўных катэгорый падлягаюць абавязковаму высяленьню ў адміністрацыйным парадку з займаемых імі памяшканьняў ў муніцыпалізаваных дамох незалежна ад таго, ці перадан даны дом у арэнду ЖАКТУ, ці эксплёатуецца беспасрэдна органам камунальнай гаспадаркі, а таксама з памяшканьняў ў немуніцыпалізаваных дамох, вылучаных у камунальны фонд;

б) значыцца, суды і не павінны прымаць ад органаў камунальнай гаспадаркі іскаў аб высяленьні з памяшканьняў камунальнага фонду асоб непрацоўных катэгорый;

в) саматужнікі—члены вытворчых арцеляй, якія ўваходзяць у сыстэму саматужна-прамысловай капярацыі, абавязковаму высяленьню па паказанай вышэй (п. а) адзнацы не падлягаюць, але і саматужнікі і асобы, якія належаць да катэгорый, паказаных у арт. 158 Грамадзянскага Кодэксу могуць быць выселены з займаемых імі памяшканьняў на агульных падставах, што паказаны ў Грамадзянскім Кодэксе, у пастанове за 19 лютага 1927 г. аб умовах і парадку высяленьня і ў арт. 7 пастановы пра мерапрыемствы па жылішчнай гаспадарцы;

г) факт пазбаўленьня жыльца выбарных праў мае неаднолькавае значэньне для вызначэньня праў пазбаўленага выбарных праў на займаемую ім жылую плошчу: так, член ЖАКТУ, разам з пазбаўленьнем выбарных праў выбывае з ліку членаў ЖАКТУ і Праўленьне таварыства можа падаць іск у суд аб высяленьні яго з займаемага памяшканьня на падставе арт. 157 Грамадзянскага Кодэксу; пры вырашэньні такіх іскаў суд павінен упэўніцца, ці адбылося канчатковае рашэньне кампэтэнтных органаў аб пазбаўленьні адказчыка выбарных праў і ці ўручана высяляемаму папярэджаньне ў тэрмін, паказаны ў арт. 157 ГК і ва ўвазе да яго; што датычаць да пытаньня аб высяленьні пазбаўленага выбарных праў з памяшканьня камунальнага фонду, але ня ў доме, які арандуецца ЖАКТАМ, то высяленьне магчыма толькі, калі ён не рабочы і ня служачы альбо, калі няма іншых паказаных у законе падстаў для высяленьня;

д) калі наймальнік кватэры высяляецца, як непрацоўны, то члены яго сям'і, якія маюць самастойны заработак і не належаць да катэгорыі непрацоўных, не падлягаюць высяленьню; непрацоўны, калі ён непрацаздольны, пражывае ў сям'і працоўнага і знаходзіцца на яго ўтрыманьні, самастойным правам на паасобную жылую плошчу карыстацца ня можа.

X. Пастановамі ЦВК і СНК БССР за 5 верасьня 1930 г. (газэта „Савецкая Беларусь" 1930 г. № 208) *) ва ўсіх раённых цэнтрах ужываюцца правілы закону пра кватэрную плату ў гарадох, і ў паасобку санітарныя нормы жылой плошчы, а таксама дазваляецца адлічэньне ў камунальны фонд часткі жылой плоцчы ў прыватных дамох; з прычыны гэтага ва ўсіх раённых цэнтрах, хоць бы яны і ня былі гарадамі ці мястэчкамі, павінны ўжывацца паказаныя вышэй законы пра высяленьне і пацясьненьне, як цесна звязаныя з законам аб кватэрнай плаце і аб адлічэньні часткі прыватных дамоў ў камунальны фонд.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Старшыня
Найвышэйшага Суда БССР **П. Валасевіч.**

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

5 кастрычніка 1930 г.
№ 43.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 169. Пра падлік спэцыялістых зоатэхнікаў і вэтдактароў народнай гаспадаркі БССР.

(На падставе пастановы СНК БССР за 23/IX-1930 г. і НКП СССР.)

Для лепшага скарыстаньня наяўных кадраў зоатэхнікаў і вэтдактароў БССР і забясьпечаньня патрэбнымі спэцыялістамі буйных спэцыялізаваных жывёлагадоўчых калгасаў і саўгасаў БССР НК Працы БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць гаспадарчыя арганізацыі і ўстановы зараз-жа пасьля апублікаваньня гэтай пастановы, праверыць, ці ўсе спэцыялісты зоатэхнікі і вэтдактары, працуючыя ў іх, узяты на падлік органаў працы, паводле пастановы НКП БССР за 23/I-1930 г, № 3, а таксама выявіць усіх спэцыялістау—зоатэхнікаў і вэтдактароў, якія знаходзяцца па месцу працы на іншай пасадзе.

2. Гаспадарчыя арганізацыі і ўстановы павінны не пазьней 5 дзён з моманту апублікаваньня гэтай пастановы прадставіць у НКП БССР

З. З. БССР 1930 г., № 33, паст. 214.

зьвесткі аб усіх занятых у іх на працы спэцыялістых зоатэхніках і вэтдактарох па наступнай форме:

а) Прозьвішча, імя і імя па бацьку;

б) На якой пасадзе працуе;

в) Спэцыяльнасьць;

г) Якую навучальную ўстанову скончыў, дзе і калі;

д) Колькі гадоў працуе па сваёй спэцыяльнасьці.

Адказнасьць за несваячасовае выкананьне гэтай пастановы ўскладаецца на кіраўнікоў гаспадарчых арганізацый і установ і за ўхіленьне ад прадстаўленьня ў НК Працы паказаных зьвестак вінаватыя будуць прыцягнуты да судовай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

30 верасьня 1930 г.
№ 50.

## Абежнік Кіраўніцтва Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР.

**Паст. 170. Пра парадак накіраваньня на вырашэньне ў вышэйшыя органы раённымі выканаўчымі камітэтамі, узьнікаючых у практыцы работы пытаньняў.**

***Усім раённым выканаўчым камітэтам БССР.***

За апошні час наглядаюцца выпадкі, калі райвыканкомы і іншыя мясцовыя арганізацыі для вырашэньня тых або іншых пытаньняў зварочваюцца непасрэдна ў СНК і Эканамічную Нараду, мінуючы тыя Наркаматы і цэнтральныя ўстановы, якімі гэтыя пытаньні павінны вырашацца. Атрыманыя хадайніцтвы накіроўваюцца Кіраўніцтвам Спраў СНК і Экан. Нарады БССР на вырашэньне ў адпаведны наркамат, што толькі затрымлівае вырашэньне пытаньня.

Кіраўніцтва Спраў СНК і Экан. Нарады БССР просіць Вас па ўсіх пытаньнях, якія патрабуюць свайго вырашэньня ў цэнтры, зьвяртацца непасрэдна ў адпаведныя наркаматы і цэнтральныя ўстановы і толькі ў выпадку незадаволенасьці вырашэньнем пытаньня альбо пры невырашэньні пытаньня ў цэнтральных установах, зьвяртацца ў СНК або ў Экан. Нараду.

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнай
Нарады БССР **Л. Дубавіцкі.**

28 верасьня 1930 г.
№ 193/37.
г. Менск.

Узгоднена з НК Працы . . 4/III-30 г. № 56
„ з НК Аховы Здароўя 27/II-30 г. № 82
„ з НК Земляробства 13/III-30 г. № 613

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР.

**Паст. 171. Пра парадак адводу і пляніроўкі зямельных вучасткаў пад забудоўку для рабочага жылішчнага будаўніцтва ў гарадох БССР.**

Для ўрэгуляваньня пытаньня забудоўкі гарадоў Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР па ўзгадненьні з народнымі камісарыятамі Працы, Аховы Здароўя і Земляробства выдае наступную інструкцыю пра парадак адводу і пляніроўкі зямельных вучасткаў для рабочага жылішчнага будаўніцтва.

Агульныя палажэньні.

1. Мясцовыя саветы павінны весьці працу па адводу зямельных вучасткаў і рэгуляваньне яе ў плянавым парадку.

2. Мясцовыя органы камунальнай гаспадаркі пры ўдзеле прадстаўнікоў гаспадарчых арганізацый, санітарных органаў, прафэсіянальных саюзаў, жылішчнай капярацыі ўстанаўляюць колькасьць патрэбных зямельных вучасткаў на бліжэйшыя гады для задавальненьня будаўніцтва жылішчнай капярацыі і рабочага індывідуальнага, пры гэтым таксама намячаюцца раёны адводу вучасткаў і самыя вучасткі.

3. Усе падрыхтоўчыя работы для адводу зямельных вучасткаў забудоўшчыкам усіх катэгорый павінны праводзіцца з выкананьнем патрабаваньняў, прадугледжаных арт. 2 пастановы Эканам. Нарады БССР за 23 красавіка 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 16, арт 153).

Утварэньне зямельнага фонду для будаўніцтва жылішчнай капярацыі і рабочага індывідуальнага.

4. Для забудоўкі жылішчнай капярацыі і індывідуальнай у граніцах гарадзкой мяжы органы камунальнай гаспадаркі мясцовых саветаў выдзяляюць спэцыяльны зямельны фонд. Пры падліку зямельных вучасткаў, прыгодных пад забудоўку, камунальныя органы ўключаюць у паказаны фонд незабудаваныя кварталы і паасобныя пляцы, а таксама і пляцы, якія заняты будынкамі, паказанымі ў арт. 86 Грам. Код. БССР.

У выпадку недастачы зямель у гарадзкой мяжы ўзбуджаецца хадайніцтва аб пашырэньні гэтай мяжы.

5. Для ўтварэньня памянёнага фонду і для найбольш мэтазгоднага і эканамічнага скарыстаньня наяўных будаўнічых вучасткаў пад забудоўку ў сялібных межах гарадоў мясцовыя саветы могуць замяняць вялічыню і форму паасобных існуючых землякарыстаньняў, праводзячы гэта ў парадку арт. 9, 10 і 11 Палаж. пра зямельныя распарадкі ў гарадох (З. З. БССР 1925 г., № 43, арт. 353).

6. Назначэньне пад забудоўку новых кварталаў у гарадзкой мяжы павінна ўтварацца паводле зацьверджанага агульнага праекту пляніроўкі, а пры адсутнасьці такога праекту—паводле частковага праекту пляніроўкі паасобнага раёну гораду з падлікам пэрспэктыў далейшага яго разьвіцьця і рацыянальнага ўключэньня ў агульны праект пляніроўкі. Гэтыя праекты павінны быць узгоднены з санітарным наглядам.

7. Пры пляніроўцы новых вучасткаў пад жыльлёвае будаўніцтва, трэба прадуглядзець элемэнты новага абагуленага быту і дабрабыту, а іменна: а) адвод вучастку пад агульную сталовую, лазьню і пральню; б) адвод вучастку пад культурна-бытавыя ўстановы: клюб, школы, амбуляторыю, дзіцячую кансультацыю, дзіцячыя яслі, дзіцячы сад і інш.; в) адвод вучастку пад дзіцячыя пляцоўкі, пляцоўкі фізкультуры, месцы агульнага адпачынку.

Увага. У выпадку высокага стаяньня глебавых вод вучастак павінен папярэдне быць дрэнажыраваны.

8. Адвод вучасткаў пад забудоўку па-за гарадзкой мяжой утвараецца зямельнымі органамі па заяўках органаў камунальнай гаспадаркі, а таксама паасобных забудоўшчыкаў. Адвод робіцца па ўзгадненьні з органамі санітарнага нагляду, а на вучастках, якія прылягаюць да гарадзкой мяжы—па ўзгадненьні з камунальнымі органамі і пры належнай увязцы з агульным альбо частковым праектам пераплянiроўкі гораду.

### Падрыхтоўка вучасткаў пад забудоўку.

9. Абсьледаваньне для вызначэньня прыгоднасьці месца пад забудоўку ўтвараецца мясцовымі органамі камунальнай гаспадаркі, альбо зямельнымі органамі па належнасьці, сумесна з органамі санітарнага нагляду, а пры адводзе вучасткаў для жылішчнай капярацыі— пры ўдзеле прадстаўніка ад саюзу жылішчнай капярацыі. Аб прыгоднасьці вучасткаў складаюцца падрабязныя акты.

10. Пры выбары зямельных вучасткаў для забудоўкі павінны захоўвацца наступныя ўмовы: а) санітарная прыгоднасьць вучасткаў пад забудоўку; б) належныя разьмеры вучасткаў у адпаведнасьці з будаўнічымі правіламі; в) увязка з праектамі пляніроўкі; г) захаваньне правіл забудоўкі.

11. Пры вызначэньні раёнаў адводу зямельных вучасткаў для жылішчна-будаўнічых каператываў трэба выходзіць з значэньня паасобных гарадзкіх раёнаў, найбольш мэтазгоднага скарыстаньня зямельных вучасткаў, а таксама максымальнага скарыстаньня камунальных пабудоў (вадаправод, каналізацыя, электраасьвятленьне, брук, шляхі зносін і інш.). У зьвязку з гэтым трэба адводзіць вольныя вучасткі ў цэнтральных частках гораду пад буйнае будаўніцтва капярацыі, а для дробнага індывідуальнага будаўніцтва адводзіць вучасткі па-за цэнтральнымі раёнамі. Таксама не павінна дазваляцца будаўніцтва ў цэнтральных раёнах драўляных дамоў. Пры адводзе зямельных вучасткаў для жылбудаўніцтва трэба ўлічваць месца знаходжаньня прадпрыемстваў, як старых, так і тых, што будуюцца, з тым, каб у залежнасьці ад гэтага найлепш распланаваць жылішчы.

12. Пры адводзе пад індывідуальнае і каперацыйнае жылішчнае будаўніцтва новых раёнаў, камунальныя органы павінны ўключыць у пэрспэктыўны плян работ упарадкаваньне раёнаў пабудовамі камунальнага дабрабыту праз далучэньне раёну да існуючых камунальных пабудоў, а пры адсутнасьці іх, праз абсталяваньне пабудоў дабрабытам прасьцейшага тыпу, пры абавязковай увязцы з агульным плянам гарадзкога дабрабыту. Тыпы гэтага прасьцейшага камунальнага абсталяваньня павінны быць узгоднены з мясцовымі санітарнымі органамі.

13. Пасьля выбару раёнаў і кварталаў, вызначаных пад забудоўку, камунальнымі органамі складаюцца праекты разьбіўкі раёнаў на кварталы, а апошніх—на будаўнічыя пляцы; праекты зацьвярджаюцца ўстаноўленым парадкам.

14. Разьмер, форма і разьмяшчэньне кварталаў павінны адпавядаць будаўнічаму заканадаўству і мясцовым абавязковым пастановам па будаўніцтву дамоў; нормы плошчы будаўнічых вучасткаў устанаўляюцца паводле існуючых на гэты прадмет правіл (Бюл. СНК 1927 г. № 1, стар. 8).

### Парадак адводу зямельных вучасткаў.

15. Аб выдзяляемых у плянавым парадку для будаўніцтва пад жылішчныя каператывы і для індывідуальнага жылішчнага будаўніцтва вучастках і таксама будынках, якія здаюцца на праве забудоўкі, камунальныя органы павінны штогод абвяшчаць насельніцтва, а таксама жылішчна-каперацыйныя саюзы з паказаньнем гранічнага тэрміну для падачы заявак, захоўваючы пры гэтым умовы, прадугледжаныя арт. 2 пастановы Эканамічнай Нарады БССР за 23 красавіка 1928 г. „Пра мерапрыемствы па жылішчнаму будаўніцтву“ (З. З. БССР 1928 г., № 16, арт. 153).

16. Камунальныя органы павінны патрабаваць ад заяўнікаў на адвод зямельных вучасткаў прадстаўленьня толькі наступных зьвестак: а) найменьне забудоўшчыка; б) разьмер патрабуемага зямельнага вучастку і падставы для гэтага разьмеру; в) праектуемыя матарыялы для жылых будынкаў і іх тып; г) тэрмін пабудаваньня будынкаў; с) пажаданы для забудоўшчыка раён адводу зямельнага вучастку.

17. Заявы аб прадастаўленьні зямельных вучасткаў, выдзеляемых пад забудоўку ў парадку арт. 15, павінны разглядацца камунальнымі органамі не пазьней 15-дзённага тэрміну з дня вызначанага гранічнага тэрміну. Фактычны адвод зямельных вучасткаў утвараецца ў тэрміны, прадугледжаныя арт. 21 пастановы СНК БССР „Пра мерапрыемствы па жылішчнай гаспадарцы“ (З. З. БССР 1928 г., № 19, арт. 192)

18. Скаргі на няправільныя дзеяньні камунальных або зямельных органаў па адводу зямельных вучасткаў пад забудоўку падаюцца ў гарадзкі савет. Скаргі павінны разглядацца не пазьней месячнага тэрміну з дня падачы. У выпадку нездавальненьня скарг на месцы, заяўнікі могуць абскардзіць пастановы мясцовых органаў у стаячы вышэй выканаўчы камітэт, прычым гэтыя скаргі падаюцца з адпаведнай даведкай мясцовага органу, які ведае адводам зямельных вучасткаў. Выдача даведкі скаргніку абавязкова.

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

№ 80.
11 кастрычніка 1930 г.

---

Адказны рэдактар **С. Лодысеў.**

Галоўлітбел № 1572. Друк. Кіраўніцтва Спраў СНК і Экан. Нарады. Заказ № 127—4500

Кіраўніцтва Спраў
Савету Народных Камісараў
і Эканамічнай Нарады БССР
1 кастрычніка 1930 г.
№ 77/154
г. Менск.

*Усім народным камісарыятам, цэнтральным установам, раённым выканаўчым камітэтам і гарадзкім саветам БССР.*

Для рассылкі ў 1931 годзе Збору Законаў і Загадаў БССР і Бюлятэню СНК БССР усім савецкім, гаспадарчым, навучальным і розным іншым установам Кіраўніцтву Спраў СНК і ЭН БССР патрэбна ведаць, каму, куды і колькі экзэмпляраў таго або іншага выданьня высылаць. А таму Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭН БССР просіць прыслаць яму дакладныя сьпісы ўстаноў, з паказаньнем колькасьці экзэмпляраў патрэбнага выданьня і дакладнага адрасу ўстановы і з паказаньнем (абавязкова) паштовага аддзяленьня, адкуль карэспандэнцыя будзе атрымоўвацца данай установай.

Народныя камісарыяты і цэнтральныя ўстановы павінны прыслаць паказаныя сьпісы за сябе і за тыя ўстановы, якія ім непасрэдна падпарадкаваны, раённыя выканаўчыя камітэты—за сябе і за тыя ўстановы, знаходзячыяся на тэрыторыі раёну, якія падпарадкаваны ім, а гарадзкія саветы—за сябе і падпарадкаваныя ім на тэрыторыі гораду ўстановы.

Усе зацікаўленыя ў атрыманьні паказаных выданьняў установы павінны будуць праверыць, ці ўнесены яны ў адзін з паказаных вышэй сьпісаў і патрабаваць гэтага ў выпадку пропускаў.

Няўключаныя ў сьпіс установы ў выпадку жаданьня атрымоўваць Збор Законаў і Бюлятэнь СНК павінны будуць падпісацца і ўнесьці належачую суму, а ўсе ўстановы, ўнесеныя ў сьпісы, будуць атрымоўваць паказаныя выданьні бясплатна.

Сьпісы павінны быць прысланы да 15-га лістапада г. г. па наступнай форме:

| №№ п./ч. | Назва ўстановы | Дакладны адрас з паказ. паштов. аддзяленьня | Колькасьць экзэмпляраў | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | Зб. Зак. | Бюлят. СНК | |
| | | | | | |

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР **Л. Дубавіцкі.**

Загадчык Інфармацыйна-Выдавецкага Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР **С. Лодысеў.**

